# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
Цана паза Нямеччынай: ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 34 (316) Нядзеля, 19 жнівеня 1956 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


## Вакол Суэскага канфлікту

Канфлікт, які ўспыхнуў у сувязі з нацыяналізацыяй эгіпскім урадам палкоўніка Насэра Суэскага каналу і які невядома калі і чым закончацца, зьяўляецца найважнейшай міжнароднай палітычнай падзеяй ня толькі сяньняшняга дня. Прэм'ер Вялікабрытаніі Антон Ідэн, адкрываючы 16 ліпеня сёлета ў Лёндане Міжнародную Канфэрэнцыю 22 дзяржаваў у справе разьвязаньня Суэскага канфлікту, асьветчыў, што ходзіць тут аб справу, якая **«належыць да найбольш грозных ад часу закончэньня другой сьветавай вайны».**

Каб лепей зразумець значэньне Суэскага каналу й вагу заіснаваўшага сяньня канфлікту ў сувязі зь ягонай нацыяналізацыяй эгіпскім урадам, варта здаць сабе коратка справу. чым быў і чым ёсьць Суэскі канал як для самога Эгіпту, на тэрыторыі якога ён пракапаны, гэтак і для многіх іншых дзяржаваў цэлага сьвету.

**Гісторыя Суэскага каналу цягнецца ад 4 000 год**

Якое вялікае значэньне меў Суэскі канал для Эгіпту, сьветчыць найлепей ягоная чатырохтысячгадовая гісторыя.

Каб маглі праходзіць караблі з Чырвонага мора цераз тэрыторыю Эгіпту да Міжземнага мора, быў пракапаны першы канал каля 1900 год перад нараджэньнем Хрыста. Быў гэны канал дзейны некалькі сот гадоў. Але ўжо за панаваньня фараона Рамзэса III (1198—1167 перад Хрыстом) канал быў засыпаны ілам і тавары былі перавожаныя на мулах і аслох.

600 год пазьней фараон Нэхо з XXVI дынастыі намагаўся адбудаваць гэты канал, зганяючы да працы 120 000 нявольнікаў. Але ў 612 годзе перад Хрыстом работы над адбудовай былі спыненыя, бо варажбіты прарочылі, што каналам прыйдзе ў Эгіпт грозны заваёўнік. Калі, ня гледзячы на гэта, Пэрсы здабылі Эгіпт, тады іхны цар Дар адбудаваў у 521 годзе перад Хрыстом канал. Але пазьней, зь няведамых прычынаў, выдаў загад канал узноў засыпаць. Аднак ягоны наступнік Ксэрксэс канал адбудаваў нанава. Гэтак на працягу доўгіх стагодзьдзяў адныя канал адбудоўвалі, іншыя яго засыпалі.

Гісторыя цяперашняга каналу цягнецца ад часоў Напалеона. Пасьля заняцьця Эгіпту Напалеон адразу быў прыступіў да пабудовы Суэскага каналу. Але ваенныя няўдачы змусілі Напалеона пакінуць Эгіпт і з пабудовай каналу нічога ня выйшла. Ад гэнага часу Вялікабрытанія заняла варожую пазыцыю да пабудовы каналу, уважаючы яе за нявыканальную тэхнічна. Таму яна паралізавала ўсе намаганьні кантынэнтальных дзяржаваў у спробах адбудаваць канал. Справа прыняла новы ход, калі на арэне паявіўся сын францускага генэральнага консуля ў Александрыі Лесэпс.

Лесэпс, выкарыстоўваючы прыяцельскія да яго дачыненьні эгіпскага ўладара Могамэда Саіда, атрымаў ад апошняга згоду й дапамогу ў 1854 годзе на пабудову каналу. Пазьней справа каналу перайшла ў рукі Вялікабрытаніі. Разьвіцьцё каналу йшло вельмі шыбкімі тэмпамі. У першым годзе адкрыцьця каналу (1869) праз яго пераплыло 69 караблёў. У наступным 1870 годзе пераплыло цераз канал ужо 486 караблёў, у 1938 годзе — 6 171 карабель, а ў 1955 годзе — 14 666 караблёў. Сярод дзяржаваў, што карыстаюцца каналам, Ангельшчына займае першае месца. Палавіна ўсіх караблёў, што праходзяць цераз канал, транспартуе нафту.

Вялізарнае значэньне Суэскага каналу палягае на тым, што ён скарочвае марскую дарогу на Ўсход прыблізна на 10 000 кілямэтраў. Калі-б Суэскі канал быў заблякаваны, дык караблі, што плывуць на Сярэдні Ўсход, галоўна па нафту, далей у Індыю і на Далёкі Ўсход, а так-жа ў Аўстралію і Нова-Зэляндыю, мусілі-б кружыць навакол Афрыкі.

Дасюлешняе праўнае палажэньне Суэскага каналу рэгулявала Міжнародная Канвэнцыя, падпісаная ў Канстантынаполі ў 1888 годзе. Гэтая Канвэнцыя пастанаўляла, што канал павінен служыць для дабра ўсяго сьвету. Эгіпт, нацыяналізуючы цяпер канал, імкнецца да таго, каб ён служыў вылучна для дзяржаўных інтарэсаў Эгіпту.

**Загроза ваенных дзеяньняў**

Нацыяналізацыя каналу і намеры Эгіпту заблякаваць на ім рух чужых караблёў выклікала на Захадзе вялікае занепакаеньне. На гэтую пастанову найвастрэй зарэагавала Францыя й Вялікабрытанія, лічучыся з патрэбай ужыцьця збройнае сілы супраць Эгіпту. Таму абедзьве гэтыя дзяржавы адразу пачалі збройныя прыгатаваньні. Вялікабрытанія выслала ў усходні раён Міжземнага мора ваенныя караблі, распачала мабілізацыю 20 тысяч рэзэрвістых і адклікала з Заходняй Нямеччыны палавіну сваіх войскаў. Лічучыся з тым, што будзе немагчыма транспартаваць цераз канал нафту зь Сярэдняга Ўсходу ў сувязі з эвэнтуальным заблякаваньнем каналу, Ангельшчына ўвяла рацыяnаваньне бэнзіны.

Супраць ваенных крокаў Францыі й Ангельшчыны становача высказалася Амэрыка. Уважаючы, што Суэз далёка, а прэзыдэнцкія выбары блізка, ды баючыся абвінавачаньня, што паддзержвае ангельскі й францускі «каляніялізм», Амэрыка стала на становішчы, што канфлікт можа і мусіць быць разьвязаны шляхам разумнага й справядлівага кампрамісу, дасягнутага пры канфэрэнцыйным стале.

**Дыпляматычная акцыя ў справе каналу**

Міністры замежных справаў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі, сабраўшыся ў Лёндане, пастанавілі склікаць у тымжа Лёндане на 16 жніўня Міжнародную канфэрэнцыю ў справе разьвязаньня Суэскага канфлікту. Перад імі адразу паўстала пытаньне, хто на гэтую канфэрэнцыю мае быць запрошаны.

**(Закончэньне на 2-ой бачыне)**

## Зьмены на вярхох камуністычнай партыі Беларусі

У палавіне ліпеня сёлета пастановаю савету міністраў СССР першы сакратар ЦК камуністычнай партыі Беларусі М. С. Патолічаў быў назначаны заступнікам міністра замежных справаў СССР. Ня доўга прышлося чакаць, як на пленуме ЦК камуністычнай партыі Беларусі, што адбыўся 28. 7. 56 г., Патолічаў быў звольнены ад абавязкаў першага сакратара камуністычнай партыі Беларусі. На XIX зьезьдзе КПСС у кастрычніку 1952 г. Патолічаў быў выбраны сябрам ЦК КПСС і кандыдатам у сябры пашыранага прэзыдыюму ЦК КПСС, а на XX зьезьдзе КПСС быў выбраны сябрам ЦК КПСС. Адначасна ад даўжэйшага часу Патолічаў быў сябрам камісіі замежных справаў Рады Саюзу Вярхоўнага Савету СССР.

Звальненьне Патолічава із становішча першага сакратара ЦК камуністычнай партыі БССР і назначэньне на становішча заступніка міністра замежных справаў СССР фармальна ёсьць павышэньнем, але фактычна паніжэньнем, бо займаючы сваё папярэдняе становішча быў ён поўным гаспадаром Беларусі, а цяпер зьяўляецца ў залежным палажэньні.

На месца Патолічава быў «выбраны» першым сакратаром ЦК камуністычнай партыі Беларусі К. Т. Мазураў, дасюлешні старшыня савету міністраў Беларускай ССР. Мазураў зьяўляецца таксама сябрам ЦК КПСС.

Звольнены таксама із становішча другога сакратара ЦК КП Беларусі Н. Е. Аўхімовіч, які таксама зьяўляецца сябрам ЦК КПСС. Аўхімовіч цяпер назначаны на месца Мазурава старшынём савету міністраў Беларускай ССР. Другім сакратаром ЦК КП Беларусі «выбраны» Т. Я. Кісялёў, які да сьнежня 1955 г. быў першым сакратаром Берасьцейскага абкому партыі, а на зьезьдзе камуністычнай партыі Беларусі ў сьнежні 1955 г. быў «выбраны» сакратаром ЦК КП Беларускай ССР. Сакратаром на гэным пленуме ЦК КП Беларусі быў «выбраны» Ф .А. Сурганаў.

Як бачым, Масква правяла грунтоўныя зьмены ў вярхоўным кіраўніцтве камуністычнай партыі Беларусі, што сталася, пэўне-ж, ня прыпадкова, а мае свае глыбейшыя прычыны. Найбольш праўдападобнай прычынай было тое, што дасюлешняе кіраўніцтва камуністычнай партыі БССР пачало не спраўляцца із сваімі заданьнямі, стаўлянымі Масквой у дачыненьні да Беларусі. Украінская газэта «Шлях Перамогі», паведамляючы аб гэтым, піша: «Ці ёсьць прычынаю гэтых зьменаў узмоцненая дзейнасьць паўстанцаў, якую абсэрвавалі на пачатку ліпня сёлета навет амэрыканскія самалёты?»

## Немцы змагаюцца з камунізмам

Найвышэйшы Канстытуцыйны Трыбунал Заходняй Нямеччыны ў Карльсругэ вынес 17 жніўня сёлета пастанову аб забароне камуністычнай партыі з прычыны ейнае дзейнасьці, супярэчнай з канстытуцыяй. Адначасна забараняюцца ўсе арганізацыі, падпарадкаваныя камуністычнай партыі. Пры гэтым Трыбунал пастанавіў сканфіскаваць усю маемасьць камуністычнай партыі і ўспомненых арганізацыяў на карысьць дзяржавы.

Урад Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі быў выступіў перад Найвышэйшым Канстытуцыйным Трыбуналам з просьбай забараніць дзейнасьць камуністычнай партыі яшчэ ў 1951 годзе. Працэс у гэтай справе распачаўся ў лістападзе 1954 году і трываў 51 дзень. Акты працэсу абымаюць 2 500 бачынаў друку, а сам прысуд 100 бачынаў друку, прачытаньне якога заняло тры гадзіны.

Безадкладна пасьля абвешчаньня прысуду паліцыя ў цэлай Заходняй Нямеччыне прыступіла да яго выкананьня. Усе партыйныя памяшчэньні, а таксама памяшчэньні пракамуністычных арганізацыяў былі апячатаваныя і было распачатае сьпісваньне інвэнтара, які падлягае канфіскацыі.

Міністар нутраных справаў ураду Заходняй Нямеччыны Шрэдэр асьветчыў, што ніхто ня будзе арыштаваны ані звольнены з працы за дасюлешнюю камуністычную дзейнасьць, «калі ня быў цесна зьвязаны зь дзейнасьцю партыі, скіраванай супраць канстытуцыі Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі». Затое далейшая камуністычная дзейнасьць, як забароненая Найвышэйшым Канстытуцыйным Трыбуналам, будзе перасьледваная й караная судом.

Кіраўніцтва камуністычнай партыі на Заходнюю Нямеччыну абвесьціла цераз усходня-нямецкае радыё, што «ня гледзячы на забарону, будзе весьці далейшае змаганьне супраць адраджэньня мілітарызму ў Заходняй Нямеччыне».

Рэакцыя нямецкай публічнай апініі на забарону камуністычнай партыі падзеленая. Сацыял-дэмакраты выступілі з закідам, што забарона толькі папхне дзейнасьць камуністычнай партыі ў падпольле, а камуністых зробіць у апініі грамадзянства «мучанікамі». Пры гэтым сацыял-дэмакраты зазначаюць, што забарона камуністычнай партыі можа мець дрэнныя палітычныя вынікі й стацца аднэй зь перашкодаў у перагаворах з Савецкім Саюзам у справе задзіночаньня Нямеччыны.

Затое хрысьціянскія дэмакраты й зблізаныя да іх угрупаваньні зьяўляюцца пагляду, што камуністычная партыя, будучы дагэтуль легальнай, аснаўную сваю дзейнасьць праводзіла ў падпольлі, для чаго выкарыстоўвала сваё легальнае палажэньне. Цяпер-жа, пасьля заняцьця памяшчэньняў камуністычнай партыі, канфіскаты яе дакумэнтаў і картатэк камуністычная падпольная дзейнасьць будзе значна цяжэйшай. Што-ж датычыцца камплікацыі ў перагаворах з Масквой, дык успомнены міністар нутраных справаў Шрэдэр асьветчыў, што забарона камуністычнай партыі очысьціць толькі атмасфэру для гэтых перагавораў.

Астаецца выказаць прызнаньне заходня-нямецкаму ўраду за ягоны палітычны розум і просталінейнасьць. У той час, калі іншыя заходнія дзяржавы ўвесь час цацкаюцца з камуністымі, Заходняя Нямеччына зразумела, што камунізм зьяўляецца маскоўскай агентурай, зь якім трэба весьці найбольш станоўчае змаганьне. Такая пазыцыя заходня-нямецкага ўраду набірае спэцыяльнае вагі яшчэ ў сувязі з тым, што Заходняя Нямеччына належыць да тых краінаў Заходняе Эўропы, якія зьяўляюцца найменш заражаныя камунізмам. У фэдэральным нямецкім парляманьце камуністыя ня маюць аніводнага свайго дэпутата, а на дзевяць парлямантаў краёў Заходняе Нямеччыны маюць у Ніжняй Саксоніі двух дэпутатаў на агульную колькасьць 159 і ў Брэмэне чатырох на агульную колькасьць 100 дэпутатаў. Гэта паказвае, што Заходняя Нямеччына вельмі добра здае сабе справу із праступнай дзейнасьці камуністых і зьяўляецца наважанай станоўча зь імі змагацца.

**(X)**

## Да незалежніцкае ідэялёгіі

**(Гаспадарка й палітыка)**

На старонках «Бацькаўшчыны» ад некаторага часу пачалі зьяўляцца артыкулы, у якіх зьвяртаецца ўвага на неабходнасьць перагляду праграмных установак нашых палітычных арганізацыяў, партыяў і цэнтраў, каб лепш іх дапасаваць да вымогаў часу і спэцыфічных абставінаў, пад узьдзеяньнем якіх праходзіць працэс фармаваньня псыхікі сучаснага пакаленьня беларускага народу. Гэта неабходна, — каб аргуманты, якімі мы будзем даказваць патрэбу й карысьць нашае нацыянальнае незалежнасьці, былі пераконвальнымі й знайшлі падтрымку ў нашым народзе.

У сучасную эпоху, калі матарыяльныя катэгорыі пачынаюць дамінаваць ня толькі ў прыватным жыцьці паасобных людзей, але і ў палітычнай міжнароднай ігры, трэба, каб матарыяльным інтарэсам аддавалі належную ўвагу і нашыя эміграцыйныя навукоўцы і палітыкі. Таму мае бясспрэчную рацыю сп. А. Будзіч, калі ён у сваім артыкуле «Чаму незалежнасьць?» у Б-не № 27 (309) зьвяртае ўвагу на важнасьць эканамічнага фактару ў вырашаньні ўсялякага роду палітычных справаў. Гэты эканамічны фактар мае надзвычай важную, калі не галоўную, ролю пры пашырэньні й замацаваньні нашых незалежніцкіх ідэяў. Важнасьць гаспадарчага мамэнту нашыя панявольнікі зразумелі вельмі рана, і спрытна выкарыстоўвалі яго ў сваёй прапагандзе для апраўданьня іхнага захопніцтва. Кажны з нас напэўна прыгадвае, як сьледам за гэтай прапагандай нашыя бабкі і дзядзькі паўтаралі: «Што-ж, мы — бедныя: няма ў нас ні солі, ні зялеза. Мы самі не пражывем ...» і г. д.

Наш селянін пачынаў мірыцца з асабістай і нацыянальнай няволяй, бо верыў, што каб мець необходную соль для стравы й зялеза на голкі, цьвікі й сякеру, трэба быць у залежнасьці ад таго, хто гэтыя рэчы мае. Ён навет пачынаў лічыць вялікім шчасьцем, што знаходзіцца пад «апекай» суседа, які можа прыдбаць яму гэтыя прадукты й прылады.

Акупацыйныя ўлады арганізаванай эксплятацыяй сялянства і каляніяльнай палітыкай у адносінах да Беларусі наагул стараліся давесьці селяніну, што прадукты ягонае працы бясцэнныя, і што вартасьць іх нязначная ў параўнаньні з прадуктамі дастаўлянымі з «цэнтру». Селяніна пераконвалі, што яму робіцца вялікая ласка, і ён верыў...

Аднак ніколі й нідзе гаспадарка не стаяла так на службе палітыкі, як у Савецкім Саюзе. Бальшавікі сьледам за царамі верылі й вераць, што для захаваньня непадзельнасьці савецкае імпэрыі першарадную ролю грае эканамічная сувязь. Ленін праклямаваў на паперы «права на самавызначэньне народаў», бо думаў, што народы з гэтага права не скарыстаюць з-за эканамічных сувязяў. Цяпер гэтыя «эканамічныя сувязі» бальшавікі плянава заціскаюць праз свае пяцігодкі, спэцыялізуючы паасобныя рэспублікі ў вытворчасьці толькі некаторых відаў прадукцыі, каб праз гэта зьнішчыць іхную гаспадарчую самавыстарчальнасьць і больш узалежніць адну частку імпэрыі ад іншых. Каб захаваць адзінства імпэрыі, бальшавікі кладуць вялікія надзеі на псыхалягічны эфэкт, які выклікае ў народаў эканамічная павязанасьць, і аднак у нас гэтай надзвычай важнай справе прысьвячаецца мала ўвагі.

Нам трэба лічыцца з тым, што ўкаранелы ў псыхіцы нашага старэйшага пакаленьня страх перад «саманевыстарчальнасьцяй» і плянавая гаспадарчае ўзалежніваньне Беларусі ад рэшты СССР праводжанае цяпер бальшавікамі, спрычыняць вялікія цяжкасьці ў замацоўваньні перакананьня ў нашым народзе на карысьць незалежнасьці. Таму апрача справядлівага сацыяльнага ладу і пэрспэктыўнае праграмы нутранога гаспадарчага будаўніцтва, нашыя незалежніцкія лёзунгі павінны зьмяшчаць навукова абгрунтаваную аргумантацыю, што палітычная залежнасьць нашага краю не давала й ня дасьць нам у гаспадарчым сэнсе ніякае карысьці, а наадварот — пацягвала за сабой эксплятацыю нашых прыродных багацьцяў суседзямі і арганізавана ўстрымоўвала і ўстрымоўвае нашае эканамічнае разьвіцьцё. Гэтыя доказы мы не патрабуем высмоктваць з пальца. Нашая гісторыя й сучасны стан — нязьбітыя доказы гэтага. Толькі тут ня хопіць сказаць (што, праўда, таксама зусім правільна й лягічна), што ніякі акупант ня йшоў нас падбіваць, каб нам даць больш, чым ад нас забраць. Гэта трэба навукова на канкрэтных дадзеных абгрунтаваць і даказаць. Справа гэтая нялёгкая, і першы лепшы зь ёй ня справіцца. Асноўная цяжкасьць ў нястачах адпаведных статыстычных дадзеных, неабходных для выяўленьня гаспадарчых адносін Беларусі з суседзямі, ад якіх яе акупанты эканамічна ўзалежнілі. Царская й савецкая адміністрацыя такімі дадзенымі сьведама не раськідалася. Аднак, калі за гэтую справу возьмуцца спэцыялістыя (эканамістыя), дык і на аснове тых дадзеных, якія мы маем, можна дайсьці да вельмі цікавых высноваў, а прылажыўшы стараньняў можна стварыць навуковыя працы, якія былі-б цэннымі дапаможнікамі і ў нашай цяперашняй штодзённай рабоце, і на будучыню. Цяпер слова за эканамістымі.

**Дубовік**

### ПАПРАЎКА

**№ 32 (314) «Бацькаўшчыны за 5 жніўня 1956 г., з прычыны карэктарскага недагляду, быў датаваны чыслом 5 ліпеня 1956 г. Просім тады паважаных чытачоў выправіць гэтую памылку.**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Наступны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе падвойным зь вялікім літаратурным дадаткам, прысьвечаным Якубу Коласу ў сувязі зь ягонай сьмерцяй 13 жніўня сёлета. Адначасна з гэтым нумарам выйдзе падвойны нумар за ліпень—жнівень часапісу для дзяцей «Каласкі».**

# Яшчэ да Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады

Артыкул сп. А. Лаўрыновіча «Сьвятло й цені Грамады» («Б-на» № 32-314) патрабуе некаторых папраўкаў. Адцемлю тое, што мне добра ведама.

Хочучы паказаць прычыны прасавецкасьці Грамады, аўтар, між іншага, адцемлівае, што «адыгрывала тут таксама сваю ролю традыцыйная цяга на ўсход нашае праваслаўнае большасьці».

Кажны гэтую традыцыйнасьць бальшыні зразумее пасвойму, прымеж таго, яна сягае ня старшага часу, як апошняе чзэрці XIX стагодзьдзя, калі была канчальна гвалтам зьліквідаваная Беларуская Праваслаўная Царква і заместа яе запанавала ў Беларусі расейская Праваслаўная Царква, таксама гвалтам уведзеная расейскай адміністрацыяй.

Адлі сп. Лаўрыновіч піша:

«Супрацоўнічалі з Грамадой нат людзі далёкія ад камунізму, а навет ведамыя беларускія нацыяналістыя. Да такіх належалі б. міністар замежных справаў А. Луцкевіч — галоўны публіцысты воргану Грамады «Беларускі Голас» сьвятар Коўш — галоўны бухгальтар Беларускага Банку, які праз свае рукі прапушчаў даляры, высыланыя із Штокгольмскага Банку для Грамады ды інж. Р. Астроўскі быў галоўным скарбнікам Грамады. Ён, як дырэктар, зьяўляецца адказным за ўвядзеньне камуністычных ячэяк у Віленскую Беларускую Гімназію. Усе гэтыя людзі ды шмат іншых «тэхнічных працаўнікоў былі апраўданыя польскім Акруговым Судом, тады як галоўныя ідэялёгі Грамады былі засуджаныя за камуністычную прапаганду і за імкненьне адарваць Заходнюю Беларусь ад Польшчы на 8 гадоў турмы».

І яшчэ:

«Правадыры, як мы ўжо казалі, падаставалі па 8 годоў турмы, а меншыя дзеячы па 3 і 1,5 гады, тэхнічныя сілы й спадарожнікі былі апраўданыя. Зь іх некаторыя, як прыкладам, Акінчыц, Астроўскі, Сарока ды іншыя зь месца прыступілі да цеснага супрацоўніцтва з Палякамі...».

Вось-жа выходзе, што справядлівы польскі суд вінных пакараў, а нявінных апраўдаў. Я ня буду пералічваць усіх «вінных» і «нявінных» ды ня змог-бы гэтага зрабіць. Зацемлю толькі, што менаваныя аўтарам Антон Луцкевіч, а. Аляксандар Коўш і Радаслаў Астроўскі ў часе Грамады былі камуністымі ў тым значэньні, што належалі да камуністычнае партыі й выконвалі ейныя загады. Астроўскі быў скарбнікам Грамады, а камуністычная партыя не дапусьціла, каб гэткае становішча займаў некамуністы. Як можна думаць, што скарбнік Грамады ня быў ейным ідэялёгам?! Калі-б Астроўскі ня быў камуністы, дык ён не скамунізаваў-бы моладзі гімназіі, каторае быў дырэктарам. Зацемлю яшчэ, што А. Луцкевіч быў рэдактарам усіх грамадзкіх палітычных газэтаў, што выходзілі ў Вільні, а ня толькі галоўным публіцыстым «Беларускага Голасу», як піша аўтар (не памятаю, ці пад такім назовам выходзіла грамадаўская газэта).

Астроўскі, Луцкевіч і Коўш дзеля таго былі апраўданымі польскім судом, што ў турме далі згоду на супрацоўніцтва з польскім урадам. А. Луцкевіч спадзяваўся, што даўшы такую згоду, магчыма будзе заставацца карысным беларускай справе, і запраўды ён заставаўся карысным, хоць былі гады, асабліва 1938—39, калі ён даслоўна галадаваў. Ня тое Астроўскі, ён пайшоў на такое-ж поўнае супрацоўніцтва з варожай Беларусам польскай адміністрацыяй і палітычнай паліцыяй, як уперад з бальшавікамі.

Сароку няма чаго сюды сунуць. Ён быў тады малады дзяцюк, да кіраўніцтва Грамады не належаў, пэўне ня быў арыштаваны й суджаны. Фабіян Акінчыц быў прысланы з БССР камуністычнай партыяй, як ейная даверaная асоба дзеля работы ў Грамадзе і наглядаў над ёй. Мог ён яўна прыехаць дзеля таго, што паходзіў з Заходняе Беларусі (спад Стоўбцаў). Афіцыяльна Акінчыц быў праўны параднік. Ён разам зь іншымі быў засуджаны, але ў турме пераарыентаваўся і быў з турмы звольнены.

Сп. Лаўрыновіч кажа: «Бальшыня беларускага актыву не пайшла за Грамадой». Дык-жэ ўся трагедыя ў тым, што пайшла.

Сп. Лаўрыновіч пытаецца: «Ці мелі грамадаўцы магчымасьць пазнаць камунізм у Заходняй Беларусі? і тут-жа адказуе: «Мелі, бо тады прамаўлялі да на-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# «Правда» гоніць жаць...

15 жніўеня «Правда» апублікавала перадавіцу пад загалоўкам: «Баявое заданьне савецкага друку». Выяўляецца, што пасьля дэтранізацыі Сталіна нічога і ў друку не зьмянілася, бо й далей «баявым заданьнем» савецкае прэсы ёсьць дэзарыентацыя грамадзтва, ашукваньне яго ды заганяньне да працы й здаваньня плёнаў гэтае працы дзяржаве. У ўспомненым артыкуле «Правда» загадвае ўсёй савецкай прэсе узяцца паважна за... збор ураджаю. Для нармальнага друку — заданьне даволі дзіўнае, бо ў ніякай вольнай дзяржаве прэса й друк наагул сяўбой, жнівом ці вывазам гною ня цікавяцца, пакідаючы гэта сялянам, якія ведаюць, калі й як гэта рабіць. Толькі ў краінах пад камуністычным прыгонам сяўба, жніво й здаваньне прадуктаў дзяржаве — «баявое» заданьне друку. Гэта ня значыць, што ўся гэтая армія журналістаў, карэспандэнтаў і прапагандыстаў мае ўзяць сярпы ды выходзіць на пожню. Пастарому савецкі друк мусіць рабіць ціск на калгасьнікаў, заганяць іх на працу, хваліць ударнікаў, выкрываць замала рупных — адным словам, выконваць ролю падганятага на фальварку.

Заданьне ня толькі не баявое, але не ганаровае й няўдзячнае. Штогод, у часе інтэнсыўнай палявой работы, у савецкай прэсе пачынаецца шум. У кажнай газэце загалоўкі крычаць: «Вышэй працу агітатараў!», «Больш прапагандыстаў у калгасы!», «Адказнасьць работы агітатара» і да г. п... Але з чым гэты бедны агітатар мае пайсьці да селяніна, якімі аргумэнтамі агітаваць яго, каб ён працаваў і аддаваў сваю працу дзяржаве?

Для прыкладу, возьмем толькі адзін 173-ці нумар «Зьвязды». Там чытаем, што Марыя Коршак і Марыя Старавойтава «дасягнулі вялікіх посьпехаў»... сярпамі. За дзень яны зьбіраюць ад 25-ці да 30-ці сотых гэктара азімых». А дзе-ж тэхніка: жняяркі, камбайны? — Замест іх далей на полі гуляе архаічны гарбаценькі серп. У Горадзеншчыне ужо прадбачыцца правал загатоўкі кармоў: няма сіласарэзак або яны некамплетныя. Вось зацемка пад загалоўкам: «Юныя памочнікі». Зь яе бачым, што на працу загнана школьную моладзь і што **«кажны вучань забавязаўся выпрацаваць у калгасе за лета ня менш, чымся па 90 працадзён».** Ня думаем, што дзецям выйдзе на карысьць і на здароўе гэтая эксплятацыя...

Далей зацемка — «Калгасы будуюць школы». Выяўляецца, у гэтым годзе калгасы Магілеўскае вобласьці забавязаліся выбудаваць сваім коштам 150 пачатковых і сярэдніх школ. А чаму гэтага ня робіць дзяржава, якая рэклямуе сябе «найбольш перадавой» і «прагрэсыўнай»? У гэтым-жа нумары «Зьвязды» зьмешчаны нарыс Пасьлядовіча «На сенажаці». Аўтар апісвае, як старшыня калгасу імя Заслонава Меркуль падцягвае свой калгас з адсталага ў перадавыя. І вось ужо дацягнуў да таго, што **«калгасьнікі атрымалі за працадзень аж... па паўтара рубля...** Застаецца толькі дзівіцца, як ад гэтага «падцягваньня» калгасьнікі яшчэ ня выцягнулі ног і іх цягаюць... Паўтара рубля ў дзень! Гэта мала лепш, як за часоў прыгону...

Вось што мы ўзялі толькі з аднаго 173-га нумару «Зьвязды». З чым-жа тады гэтая зграя агітатараў мае йсьці да беларускага селяніна? Як мае яго пераконваць, каб ён апошнія сілы аддаваў свайму ворагу — дзяржаве, якая яго з вольнага чалавека і ўласьніка зрабіла парабкам?

Каб савецкая прэса была тым, чым зьяўляецца прэса вольнага сьвету, г. зн. выяўленьнем думак розных слаёў грамадзтва, а ня рупарам дыктатуры, яна-б, замест крычаць «ідзеце зьбіраць ураджай!» павінна была-б гнеўна дамагацца «Зьвярнеце зямлю селяніну!»... **Г.**

# Вакол Суэскага канфлікту

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Міжнародную Канвэнцыю ў 1888 годзе падпісалі наступныя дзяржавы: Эгіпт, Францыя, Італія, Галяндыя, Гішпанія, Турэччына, Вялікабрытанія, Расея і Аўстра-Вэнгрыя. Але Аўстра-Вэнгрыя сяньня ня існуе. На падставе міжнароднага права яе кампэтэнцыі пераходзяць на спадкаемныя дзяржавы, якімі зьяўляюцца сяньня савецкія сатэліты і Югаславія. Заходнія дзяржавы пастанавілі іх не запрашаць і высунулі прынцып, што, апрача дзяржаваў, якія падпісалі канвэнцыю з 1888 году, павінны быць запрошаныя толькі тыя, якія беспасярэдна зацікаўленыя справай свабоднага мораплаўства цераз канал. Згодна з такім прынцыпам былі яшчэ запрошаныя: Аўстралія, Цэйлён, Данія, Абісынія, Заходняя Нямеччына, Грэцыя, Інданэзія, Японія, Нова-Зэляндыя, Пакістан, Індыя, Партугалія, Швэцыя і ЗША.

Спасярод гэтых 24 дзяржаваў ад удзелу ў канфэрэнцыі адмовіліся Эгіпт і Грэцыя. Эгіпт сваю адмову матываваў тым, што выбар дзяржаваў, запрошаных на канфэрэнцыю ў справе ягонае собскасьці ня быў узгоднены зь ім, і запрапанаваў склікаць у пазьнейшым часе новую канфэрэнцыю з удзелам 45 дзяржаваў, караблі якіх пераплываюць цераз канал. Адмова Грэцыі была падыктаваная ейным канфліктам зь Вялікабрытаніяй у справе Цыпру. Саветы, якія паддзержываюць дамаганьні Эгіпту, у канфэрэнцыі, аднак, удзел прынялі. Такім чынам канфэрэнцыя адбываецца з удзелам прадстаўнікоў ад 22 дзяржаваў.

Калі пішуцца гэтыя радкі, канфэрэнцыя яе яшчэ ня відаць. Аднак ужо цяпер цыя яшчэ не закончылася і наагул канможна прадбачыць агульныя яе вынікі.

Яшчэ перад канфэрэнцыяй міністар замежных справаў ЗША Даллес высунуў амэрыканскі плян урэгуляваньня справы Суэскага каналу, які падтрымала Вялікабрытанія й Францыя. Гэты плян, прызнаючы Эгіпту права собскасьці над каналам, прапануе паклікаць міжнародную арганізацыю, якая кантралявала-б эксплятацыю каналу. Далей плян прадбачыць, што гэтая арганізацыя вырашала-б справы аплаты за праезд каналам, а таксама справы ўтрымліваньня й разбудовы каналу. Пры чым, Эгіпт атрымліваў-бы значна большы, чымся раней, удзел у даходах ад каналу, а дасюлешняе Таварыства Суэскага каналу атрымала-б належную яму рэкампэнсату. Гэты плян і быў дагэтуль галоўным прадметам канфэрэнцыі.

Палкоўнік Насэр у сувязі з гэтым асьветчыў, што Эгіпт на плян заходніх дзяржаваў у ніякім выпадку ня згодзіцца, уважаючы, што ня міжнародная арганізацыя, але Эгіпт можа і павінен кантраляваць справу карыстаньня каналам, як ягоны выключны собсьнік. Пазыцыю Эгіпту падтрымліваюць і Саветы, заяўляючы пры гэтым, што цяперашняя Лёнданская канфэрэнцыя нічога ў гэтай справе пастанаўляць не кампэтэнтная, а павінна быць толькі падгатаўленьнем да скліканьня шырэйшай канфэрэнцыі з удзелам успомненых 45 дзяржаваў. Пры гэтым Саветы выразілі пажаданьне, што справа Суэскага каналу павінна быць разгляданая ў сувязі із справай іншых каналаў, якія маюць міжнароднае значэньне, намякаючы гэтым на Панамскі канал, собсьнікам якога зьяўляецца Амэрыка, а галоўна на Дарданэлі, да якіх, як ведама, прэтэндуюць Саветы.

Як відаць з дасюлешняга ходу канфэрэнцыі, скарэй за ўсё скончыцца яна тым, што будзе вызначаная новая міжнароднай канфэрэнцыя. Судзячы з больш умеранага становішча Эгіпту, таксама можна спадзявацца, што ў будучыні нейкі кампраміс будзе дасягнуты з большымі для Эгіпту карысьцямі, чымся дагэтуль. У кажным выпадку нацыяналізацыя каналу Эгіпту астанецца ўжо дакананым фактам. Такім чынад справа збройнага канфлікту, які быў вельмі праўдападобны яшчэ нядаўна і які могбы лёгка перарадзіцца ў трэйцюю сьветавую вайну, у сяньняшні мамэнт не ўважаецце ўжо актуальнай.

**І тут Масква памачыла свае рукі**

Ніхто на Захадзе ня сумляваецца, што галоўным ініцыятарам і рэжысэрам канфлікту была Масква. Гэты канфлікт пры выдатнай паддзержцы Крэмля насьпяваў даўно, а ягоны выбух наступіў беспасярэдна пасьля візыты ў Каіры савецкага міністра замежных справаў Шапілава.

Фармальна нацыяналізацыя Суэскага каналу была адказам на адкліканьне амэрыканскага й брытанскага абяцаньня фінансаваць пабудову асуанскай грэблі на Нілю, нязвычайна для Эгіпту патрэбнай. Але няма ніякай гарантыі, што і ў выпадку атрыманьня гэтага фінансаваньня была-б праведзеная нацыяналізацыя каналу, толькі трохі пазьней. Насэр асьветчыў, што прыбыткі із знацыяналізаванага каналу пойдуць цяпер на сфінансаваньне пабудовы гэтае грэблі. Але пры цяперашняй сытуацыі гэтую грэблю будаваў-бы ўжо Савецкі Саюз. Апрача гэтага, Эгіпт ня мае спэцыялістых, якія маглі-б трымаць канал у стане годным да функцыянаваньня. Калі-б тады заходнія спэцыялістыя былі выкінутыя, дык іх маглі-б замяніць толькі спэцылістыя савецкія. А гэта стварыла-б сытуацыю, што Суэскі канал апынуўся-б пад савецкім кантролем.

Калі-б у Суэскім канфлікце прайграў Захад, дык грозныя для яго вынікі на гэтым не абмяжаваліся-б. Вялікабрытанія была-б тады канчальна выкінутая із Сярэдняга Ўсходу, а Францыя з паўночнай Афрыкі. Пастачаньне нафты было-б тады вельмі загрожанае, якая магла-б апынуцца ў савецкіх руках. Атлянтычны пакт мог-бы тады зусім разваліцца, бо Вялікабрытанія й Францыя галоўную віну зваліві-б на Амэрыку, якая паўстрымала іх ад ваеннай інтэрвэнцыі. Сяньня нельга прадбачыць і пералічыць усіх тых кансэквэнцыяў, якія пацягнула-б за сабой такая сытуацыя. **Л. К.**

**УЛАДЗІМЕР ДУДЗІЦКІ** 8)

# УСПАМІНЫ

### НЕПЕРАЛІЎКІ «ПРАХ-ВЭСАРА» ПЫЖЫКА І ДЫПЛЯМАТЫЯ «ПАНА» БАНІСА

На камяным лапікле сядзелі галасьпінныя. Спрасонку ня надта ўвазнаеш усіх адразу, спад памосту праз галовы на іх гледзячы, хоць гэтае ўвазнаньне ня вельмі ўжо мне й карцела, аднак я, каб адкараскацца саўсім ад шчуплацелага, што смаліцаю ўлазіў у маю сьціхату, і нічога ніякага не гаварыць на ягонае «а што вы скажаце пра гэтую галёнку?» («смаліца» мела на ўме Галёнку-Валанцая), удаў, што не пачуў запытанага, і думанае пра галасьпінных на камяным лапікле сказаў самому сабе ўголас:

— Хай забаўляюцца, адно каб новага закалату не рабілі...

— Добрая вам у мокрым карцары забаўка... — прычапілася да слова «смаліца». — Папацёмку ніякі рызыкант ад пацукоў не абароніцца, а самыя «залатушнікі» — гэта-ж я сам добра ведаю, — вар'ятамі робяцца...

— Я, — кажу яму, — пра адно, а вы — пра другое... Вунь пра каго я, — кіўнуў галавою, — што ў бірульках забаўку маюць...

— Што ўдзень сьпяць, а ўначы «агру» раскулачваюць?

— Ня ведаю, — адказаў дакучліваму чалавеку-«смаліцы».

Я ня ілгаў, бо такі й ня ведаў, пра што яна тая мова йшлася. І каб наўчыцца турэмнае мудрасьці ды, «носячы моцна зарубленую яе на носе», як умеў было выслаўляцца крывенькі, пацешны Мікіта Бурболік, стары ганчар спад Таўкачэвіч, умела разьмінуцца навет зь вялікімі непераліўкамі, калі заўтра-пазаўтра прыкруцяцца неспадзеўкі на прыкрасьць, пацікавіўся, прызнаючыся ў вочы:

— І не разумею, што вы мне кажаце: каго й як «раскулачваюць»? Яны-ж гэтакія, як і мы з вамі?...

— І гэтакія, і ня гэтакія...

— І гэтакія, і ня гэтакія... Торбачнікаў раскулачваюць, — гэтак у нас калгасьнікаў празвалі кішэньнікі. Дастане гэта чалавек прынесенае печыва сухароў з дому, сядзе й сядзіць седзьма на торбе, — сьцеражэ, каб ня вычапілі спад мяккага месца... А кішэньнікі пад памостам сядзяць цалюткі дзень, — слабюкамі й хворымі прыкідаюцца, чакаюць, калі «агра» адлучыцца ці на торбе, чухаючыся, задрэмле. Удзень ня надта ім удаецца, а ўночы, калі чалавек здасца, апэрацыю медзяком навостраным робяць: прарэжуць торбу, выбаваць тое печыва й мелюць... Чалавек прахопіцца, седзячы на пустой торбе, і вачыма лыпае: ні сьледу, ні таго злодзея. А ён, кішэньнік каторы, з тымі сухарамі ў жываце выпаўзае, стане перад «раскулачаным» і даймае кпінамі:

Дядя! Пожертвуй сухарик голодному мальчику!...

— Гэтыя самыя, што зь бірулькамі? — дапытваюся.

— Гэтыя... І пад памостам нейкіх зь дзесяць, — прадаўжае шчуплацелы. — Нешта за тыдзень перад вамі, тое, што кажу, здарылася. Зірнула тая бедная раскулачаная «агра» на кудлатую шэльму і затрэслася:

— Цыц, вашапруд карэлы!... Абармот... Паскуднік...

Шчуплацелы, відаць, вымавіў усё гэтае мацней за таго «раскулачанага», бо, як заўважылася, і сам спалохаўся, і, зірнуўшы на мяне, сказаў:

— Ня крычэце, прашу вас: пачуюць...

— Хіба-ж гэта я вам крычу? — папытаўся.

— Ведаю, што сам я крычу, але-ж кажу: крычаць ня трэба — небясьпечна. — Нейкі замарак прычапіўся да мяне, — апраўдваўся чалавек. — Усе павар'яцеем, кажу вам...Самі ўбачыце...

— Вам, бачу я, боязна надта, — сказаў от так сабе.

— Чалавек-жа ніколі ня выбаіцца, каб і хацеў, — апраўдваўся шчуплацелы.

Блізу ўсе «суседзі» прабудзіліся, але ня ўсе спанатрылі. Галасьпінныя на лапікле мелі вайстрэйшыя вушы: пачулі й заварушыліся...

— От і прыкруціліся непераліўкі... — думалася мне. — Трэба разьмінацца, каб там, дзе вар'яцеюць, з пацукамі ды з тымі «залатушнікамі» ня бачыцца.

Адступіўся й да камянога лапікла нямаведама чаго пацігнуўся.

— Э-эй ты, прах-вэсар Пыжык!... — азваўся да шчуплацелага галасьпінны. — Бірулька на твае штаны йграецца... Чуеш?

«Прах-вэсар» не падаў і голасу, — у транты пад памостам унурыўся і тросься ад страху. І няма чаго й дзівіцца нам: і пра найлепшыя паджураныя сухары і пра наймілейшых «аграў» забудзешся, і язык, якім-бы ён там даўгім ні быў, прыкусіш, ад галасьпіннага гэткае пачуўшы: Хай сабе чалавек і не на нейкім там кірмашы, але-ж тых штаноў ня ўжывеш і ў турме кірмашаваць пры людзях ня будзеш, — нязручна, як там ні гавары. Або вось гэтакае надарыцца: прыйдзе чырванагаловы дый пазаве цябе да сьледчага. Трэба-ж ісьці з «ворагаў» вылузвацца, каб ад наплесканых злымі языкамі нагавораў адкаснуцца, і ня пойдзеш, калі твае блізкія варагі з апошніх штаноў перад гэтым цябе вылузалі... Або й такое, пра што і ў сьне сьніцца: выскаліцца той чырванагаловы, адчыніўшы дзьверы, дый скажа:

— Дзе там той, грамадзянін Пыжык, якому дадому зьбірацца кажуць?

А пазьней, зірнуўшы на галаногага, дадасьць, яшчэ больш сьцелячыся:

— Зь вяшчамі, прыказана...

А бедны Пыжык аблізьнецца, як мыла зьеўшы, і на ўкарочаныя «вешчы» пальцам сваім пакажа... І каля рашкі-«парашы», як тое ў каноплях пудзіла, ківацца будзе.

Гэта-ж ня жартачкі! Няшчасьце дый годзе.

От і мусіў чалавек унурацца, усё гэта загадзя на рабацініньні маленькага вастранькага носіка зарубіўшы. Балазе, што ўчарашняе сяк-так уціхамірылася ды без таго карцарнага пацукавіньня абыйшлося. Але-ж і гэта яшчэ віламі па вадзе пісана: можа ўсё гэта яшчэ й ачнецца й прыкруціцца?.... Хто яго там ведае. «Сядзі й ня дыш», — думалася ўнуранаму Пыжыку, — бо як навярзецца новае, дык тады й старое клейка да яго прыпластуецца, каб яго, ня пры мне кажучы, заўшыцай аблажыла, і пачне, падсудны Пыжык, твая справа пухнуць, як той сьцягняк, капытом моцна выцяты.

Гэтак Пыжыкавыя думкі за думкамі беглі наўздагонкі, навыперадкі, шараваліся, разьмінаючыся, і калі ўжо ад разьміну й шараваньня глухлі і шпакляваліся «прах-вэсаравыя» чырвоныя вушы, пакусаныя гладзюткімі касмаценькімі, шчуплацеламу рабілася зябка й боязна; ён тужэй заціскаў матузок на паясьніцы і, таўкучы зубамі дрыжыкі, сакатаў, заікаючыся на Банісавым:

— Прах-вэс-сар-р Пы-пыж-жык... гыг-гій-га-а... Бір-руруль-к-а на-а-а твай-ей-е ш-ш-тан-ны іг-гра-ец-ца...

«Бірулька» спрытнела і перайходзіла да апошняга, да кірпаносага рагатуна і камэдыянта. Той не забыўся, і перад тым, як падкінуць гладзютка вышмараваныя паячныя палочкі-сколачкі, смаргануў носам і, кіснучы ад сьмеху, даймаў баязьліўца:

— Пан Баніс не жартуе, таварыш прах-фэсар Пыжык: ізвольце штанішкі на бочку!...

Мулялі яму прах-вэсаравыя штаны даўгі язык, але, як на злосьць, не пашанцавала. Кірпаносы сваю «Бірульку» «прамазаў» і зламаўшыся, хацеў «змыцца». «Пан» Баніс прытрымаў «ушлага» камэдыянта, прыгнуў да камянога лапікла ягоную чупрыну, і ўсе галасьпінныя ёмка «прагаласавалі» на ягоным седзіве... Кірпаносы агрызнуўся: ня то што каб яму балела, — ён добра ўжо абабіты і не абы як, а, казаў той, на ўсе-ўсенькія канты і бязь ніякага там далікацтва: папросту, «пасвойску», «паблатному», бо «блатва — блатвою», найбольшае «мо-

(Працяг на 3-яй бачыне)

# Аб прызнаньні беларускае нацыянальнасьці ў Францыі

(Працяг з папярэдніх нумароў)

**Што значыць, калі здабытыя пазыцыі застануцца незамацаваныя**

Францускі аддзел ІРО раней як залічыць у свой штат адпаведную колькасьць такіх урадоўцаў, прыступіў да рэгістрацыі чужынцаў паводля нацыянальнасьці. Беларуская эміграцыя ў гэтым выпадку, нажаль, не зразумела сэнсу праводжанае перапісі. Адны, знаходзячыся шчэ ў палоне псыхозу страху перад прымусовай рэпатрыяцыяй, інрапісі, Беларусаў па нацыянальнасьці не сабралася навет поўнае тысячы. Згодна-ж з пастановай кіраўніцтва ІРО, платным урадоўцам мог быць іхны прадстаўнік, калі нацыянальная група мела ня менш як дзьве тысячы. Каб утшыя з прычыны свае простае нядбайнасьці, трымаліся прынцыпу «абы ліха-ціха» і адпаведных анкетаў у ІРО сваечасова не падалі. У выніку гэтае перымаць свае пазыцыі, інж. Рыдлеўскі згадзіўся быць пасярэднікам паміж беларускай эміграцыяй і ІРО ў якасьці бясплатнага памочніка. З праўнага гледзішча гэта не мяняла паложаньня, але з боку практычнага мела вялікае значэньне. Ня маючы магчымасьці сязецьстала ў іраўскай установе, інж. Рыдлеўскі выпаўняў анкеты на атрыманьне розных патрэбных папераў зацікаўленым асобам у сваёй кватэры. Прыежджыя людзі з правінцыі часта не маглі застаць яго ў хаце, а часам і ня шукаючы яго йшлі проста ў ІРО, дзе яны часамі не арыентуючыся, а часамі дзеля браку часу, пападалі ў рукі ўрадоўцаў польскіх ці расейскіх, і гэтым самым павялічвалі нацыянальныя групы апошніх. Праўда, ня было такіх платных прадстаўнікоў у ІРО і ад народаў балтыцкіх з прычыны нязначнае колькасьці іхных эміграцыяў у Францыі, але іхнае становішча ў сэнсе трактаваньня іхнае нацыянальнасьці не вымагала столькі пільнасьці, як з нашага боку. Каб палепшыць справу, Беларусы зьвярнуліся да праф. А. Шульгіна — украінскага ўрадоўца ў ІРО — з просьбай аб ягоную згоду на тэхнічнаю дапамогу Беларусам, якія зьяўляюцца беспасярэдня ў ІРО па розныя дакуманты ды эвэнтуальна на правядзеньне пры такіх нагодах іхнае рэгістрацыі. Праф. Шульгін згадзіўся, але ня гледзячы на ягоныя найшчырэйшыя й найпрыязьнейшыя адносіны да Беларусаў, ён ня мог, зразумела, дапільнаваць усяго таго, што мог-бы зрабіць чалавек, вылучна заняты Беларусамі.

Справа аднак неяк ішла памысна, і прынамся ўсім, хто зарэгістраваўся Беларусам, да канца 1948 году, выдаваліся ІРО-м адпаведныя дакуманты, а ў прафэктуры гэтыя дакуманты прызнавалі як і ўсе іншыя.

У пачатку-ж 1949 году у парыскай прафэктуры раптам пасьветчаньні ІРО пачалі адкідаць, а незадоўга ў ІРО афіцыяльна заявілі, што пасьветчаньні аб беларускай нацыянальнасьці выдавацца больш ня будуць. Беларуская эміграцыя мусіла нанова пачынаць змаганьне за прызнаньне свае нацыянальнасьці. Змаганьне гэтае прыймала ціраз досыць войстрыя й прыкрыя формы, як для Беларусаў, так і Французаў. Людзі нашыя ўвайходзілі ў канфлікты з францускай адміністрацыяй. Узьнікалі няраз няпрыемныя інцыдэнты. Прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў нанова мусілі абіваць парогі вышэйшых францускіх установаў ды складаць мэмарыялы.

**Ізноў дэмаршы, ізноў тузаніна...**

Справа з прызнаваньнем беларускае нацыянальнасьці нанова заблыталася і тузаніна навокал гэтага зацягнулася амаль на два гады.

На бяду Беларусаў, адбыліся некаторыя зьмены на вярхох пэрсаналу самога ІРО. На месца вялікага прыяцеля Беларусаў палкоўніка Донзо, які дэцыдаваў у выдаваньні пасьветчаньняў аб нацыянальнасьці прыйшоў нейкі натуралізаваны Расеец жыдоўскага паходжаньня, які адразу паставіўся няпрыхільна да Беларусаў. З нашага боку з прычыны цяжкой хваробы паступова пачаў адыходзіць ад актыўнага арганізацыйнага жыцьця інж. Рыдлеўскі. Айцу Льву, які заняў ягонае месца, нейкі час было досыць цяжка зарыентавацца, каб знайсьці галоўны корань гэтае прычыннае залежнасьці, ці, як кажацца, выкрыць, «дзе зарыты сабака». Дзеіў а. Леў аднак вельмі энэргічна, бесьперапынна складаў адзін за другім мэмарыялы, хадзіў па розных установах; было аднак уражаньне, што нехта недзе перашкаджае — усё заставалася бяз выніку.

Праўда, і ў самых урадах францускае адміністрацыі пачалася нейкая блытаніна. Правінцыяльныя прафэктуры ў бальшыні ня ставілі перашкодаў у прызнаньні беларускае нацыянальнасьці і паводля раней выдадзеных пасьветчаньняў ІРО, але ў Парыскай прафэктуры пасьветчаньні гэтыя адкідалі. Узьнялася ізноў вайна. У вапошняй («прафэктуры Парыскай) пры кажным зьяўленьні нашых людзёў урадоўцы перакрэсьлівалі ў «картах пабыту» беларускую нацыянальнасьць, надпісваючы зьверху «Паляк» ці «Расеец» «з паходжаньня», часамі — «індэтэрмінэ» («неакрэсьлены») з прыстаўкай малюсенькай (з гарошыну) пячаткі «Папраўлена». Адны з гэтым часамі мірыліся, другія пратэставалі, іншыя-ж нат рабілі скандалы. Канфлікты нарасталі з кажным днём. Былі навет выпадкі, што некаторыя нашы сябры не дабіўшыся свайго, пакідалі Францыю. Адзін з такіх (студэнт Сарбоны) дабіўшыся аўдыенцыі ў міністра нутраных справаў склаў на ягоныя рукі пісьмовую заяву, што ня гледзячы на тое, што ён любіць Францыю, ён змушаны пакінуць яе, бо ягонае сумленьне й нацыянальны гонар яму не дазваляюць насіць у дакумантах чужую нацыянальнасьць. Ён зьвярнуў прафэктуры сваю «карту пабыту» і выехаў.

Здарыўся адзін асабліва прыкры выпадак у Парыскай прафэктуры з адным новапрыбылым зь Нямеччыны нашым сябрам. Пабачыўшы, што ў ягонўю карту ўпісалі «Расеец з паходжаньня», ён запатрабаваў аўдыенцыі ў шэфа па справах нацыянальнасьцяў. Не дабіўшыся аднак і там свайго, ён нэрвова швырнуў гэную карту назад і заместа на стол (як ён меціў) карта папала ў шэфа. Гэты няпрыемны інцыдэнт ўдалося потым ліквідаваць пры інтэрвэнцыі нашых вышэйшых чыньнікаў.

Францускім уладам нельга было не пасьпяшацца, каб як мага хутчэй палагодзіць справу зь беларускай нацыянальнасьцяй. Даходзіла да гэтага шэраг драбнейшых выпадкаў, часамі нат наіўна-камічных, тым ня менш, прыкрых сваімі наступствамі. Прыкладам, адзін работнік, вярнуўшыся дадому, разгледзеўся, што побач маленькай пячаткі («Папраўлена») ёсьць яшчэ месца на адну папраўку. Доўга ня думаючы, ён перакрэсьліў «Полёнэ» («Паляк») і дапісаў «Белёрусьен» («Беларус»). Зразумела, потым меў прыкрасьць у прафэктуры.

Некаторым спрытнейшым хлапцом, што рабілі добрае ўражаньне на маладых дзяўчат і ўдовак, не перапраўлялася нацыянальнасьці. Урадоўкі рабілі ўражаньне, што не заўважалі. У выніку ўсяго гэтага, у практыцы паўстала цэлая блытаніна. Ня толькі ў арганізацыі нашай паявіліся, як калісь, сябры розных «нацыянальнасьцяў», але і ў сем'ях: сын, дачка часамі Беларусы, а бацька й маці «Палякі» ці «Расейцы», або наадварот.

У красавіку 1951 году а. Леў узяў сабе на дапамогу Прэзыдэнта Абрамчыка, які вярнуўся ў той час з Амэрыкі. Узброіўшыся нова падрыхтаваным мэмарыялам і рознымі дакумантамі, абодва пайшлі ў «атаку» па ўрадах. Прэзыдэнт Абрамчык потым жартаваў, што праблема беларускае нацыянальнасьці была ня толькі добра ведамая для вышэйшых урадаўцаў ІРО, прафэктуры й Міністэрства нутраных справаў, але і ўсім сторажам гэтых установаў. Айца Льва ўсюды спатыкалі, як добра знаёмага, прапускалі ўсюды без чаргі. У гутарках выяўлялася, што мы маем шмат і прыхільнікаў, але нямала было й праціўнікаў. Адным было дзіўна, чаму Беларусам ня прызнаецца іхнае нацыянальнасьці, таму спачувалі, давалі парады; другім, — дзіўна, чаму гэтага Беларусы так дамагаюцца; якое гэта мае для іх (Беларусаў) значэньне? Дзеля таго злаваліся, што ім дакучаюць, сварыліся. Дарэчы, варта адзначыць, што аргумант нашых дэлегацыяў адносна ўваходу Беларусі ў склад Аб'яднаных Нацыяў, а гэтым самым і прызнаньне Францыяй Беларусі, як нацыі, «зьбіваўся» заўсёды нашымі праціўнікамі тым, што савецкі кансулят у **Францыі**, выдаючы пашпарты сваім грамадзянам паходжаньня з этнічных беларускіх земляў, таксама беларускае нацыянальнасьці не прызнае, і ў рубрыцы «нацыянальнасьць» піша не Беларус, а «савецкі».

У дэмаршы гэтым была адылі выяўлена асноўная прычына ўсяе гэтае валакіты зь беларускай нацыянальнасьцяй, а менавіта, што выдаваныя раней ІРО-м пасьветчаньні і прызнаваньне іх прафэктурай ня было ўзаконена ўрадам. Прафэктура, агледзеўшыся, што ня мае ў гэтай справе загаду свайго вышэйшага начальства (Міністэрства нутраных справаў) пачала адкідаць пасьветчаньні ІРО, а міністар нутраных справаў ня мог даць такога загаду, бо ня меў распараджэньня Міністэрства вонкавых справаў якое і зьяўлялася ў гэтым выпадку адзінай кампэтэнтнай установай.

У травені 1951 году а. Леў з Прэзыдэнтам Абрамчыкам, на аўдыенцыі ў Міністэрстве вонкавых справаў, перака괗налі высокага ўрадоўца Ўсходняга Аддзелу ў бясспрэчным праве беларускае эміграцыі на прызнаньне ім іхнае нацыянальнасьці. Апошні, згадзіўшыся з усімі аргумэнтамі нашае дэлегацыі, абяцаў справу нашую паставіць на разгляд паседжаньня спэцыяльнае камісіі, і абяцаў з свайго боку падтрымку.

І праўда, нешта за тры тыдні часу прафэсар Шульгін паведаміў беларускага прадстаўніка, што зь Міністэрства вонкавых справаў прыйшла ў ІРО паперка, і што апошняе (Міністэрства вонк. спр.) ня мае ніякіх засьцярогаў у прызнаваньні беларускае нацыянальнасьці.

ІРО пачало нанава выдаваць Беларусам пасьветчаньні аб нацыянальнасьці, а прафэктура — іх прызнаваць. Беларуская эміграцыя нанова супакоілася. Людзі нашыя пры кажнай нагодзе перапраўлялі ў сваіх картах прымусова упісаныя ім калісьці чужыя нацыянальнасьці на сваю беларускую. Здавалася, усё ўжо ўпарадкавана, але, нажаль,

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)



Глыбокае. Праваслаўная царква. Із збору д-ра Гоція

10)

# На нівах і ўзвышшах беларускага слова

### ДОБРЫЯ ВЕСЬЦІ

Ах, браце родны, нясуцца весьці,
Ужо граюць маршы там, на усходзе;
Над кажнай хатай, у кажным месьце
Шчабечуць птушкі нам аб свабодзе.

Усіх злучыла чароўнае слова:
Зялезны вобруч скуў нам далонь,
І матка сына даць нам гатова,
І жонка мужа вышле ў вагонь.

І дзед старэнькі бяжыць у дружыну,
І ўнучак сьледам дзеда сьпяшыць;
Хлопец, абняўшы любу дзяўчыну,
На барыкадах сьмела стаіць.

Ах, браце, крэпка сіла ў народзе,
Добрыя весьці зусюль плывуць,
Бо то мільёны разам у згодзе
Да лепшай долі сьмела ідуць.

Ах, браце, важны момант прыходзіць,
Важну ахвяру прыдзецца даць:
На небе сонца шчасьця усходзіць,
Толькі патрэба хмары прагнаць.

### БУРА ЙДЗЕ

Зноў навісьлі цёмны хмары,
Зноў туманы неба крыюць,
Зноў па сьвеце ходзяць мары,
Зноў крапчэй нам віхры выюць.

Зноў надходзіць для нас бура,
Зноў маланкі бягуць радам,
Зноў шалее ўся натура,
Зноў засыпле сьвежым градам!

**ЗБОРНІК «СКРЫПКА БЕЛАРУСКАЯ» (1906)**

### ВАМ, СУСЕДЗІ

Вам, суседзі, вам, кумочкі,
Беларусы-галубочкі,
Пяю з сэрца, падцінайце.
Вы грамадай голас дайце
Зложым песьню цэлым людам.
Выйдзе пекна, стане цудам.
Як сьвет сьветам яшчэ стаў —
Такой песьні ня слухаў.
Восем . . . дзевяць і мільён
Грудзей зьльецца ў вадзін тон,
Дадуць песьню, а ў ёй труд,
Доля жыцьця. Ці-ж ня цуд?
Ад вякоў мы, браткі, спалі,
Аж тут разам засьпявалі.

### У ДАРОГУ

Цераз моры, акіяны
Паляту ў далёкі край:
Бо люблю я гураганы,
Бо я ў буру чую рай.
Бо на дзікіх зрывах хвалі
Маім думам лягчэй плыць;
Бо ў дзікой страшной навале
Я аб песьні магу сьніць;
Бо я толькі на прасторах
У звонкай ліры маю слух;
Бо у дзікай страшнай буры
Крэпне мой свабодны дух.

### СУСЕДЗЯМ У НЯВОЛІ

Ад сваіх хат, ад сваіх ніў
Ад ўсіх братоў, хто толькі жыў,
Нясу сьлязу, нясу я стогн,
Нясу нагаек царскіх звон.
У нас там ноч, у нас там стук.
Мы ацямнелі з страшных мук.
З нас пот ліецца, сохнуць грудзі.
Нас катуюць! чуйце людзі!
Чуйце, чуйце, руку дайце!
Мы вам родны. Праўду знайце:
ці у долі, ці ў нядолі
Станем з вамі ў вадным полі,
Рука ў руку з вашым братам
За свабоду перад катам.

### НА ЧУЖОЙ СТАРОНЦЫ

Маркотна мне, чужы я людзям,
Цесна душы, цесна грудзям.
Бягу думкай ў край далёкі,
У лес цёмны, ў лес высокі,
Ў сваю вёску, ў сваю ніўку.
Бачу выган, бачу сіўку,
Вун кароўкі бягуць з поля . . .
Ой, дахаткі! Кінь мне доля,
Хоць расінку з нашай вёскі,
Хоць былінку, хоць дзьве крошкі
Ад палудня майго брата.
Ой, як люба родна хата,
Ой, як любы родны край!
Паляцеў-бы як у рай.
Раднюсенька мне сярмяжка,
Шнурок, лапці, каптан, дзяжка.
Ўсё там міла, бо мне родна,
Нат сьмяцінка сэрцу годна.

(Далей будзе)

(Працяг з 2-ой бачыны)

крае дзела» ў завулках Адэсы бяз шухеру — найдалікатнейшая «лафа» й «маліна»; «абабіўся і абтоўкся і сваімі «у доску», і «піжонамі», і «контрыкамі», і «важным гусем» на «этажах», «і праставалосы — анцілігенцыяй»; значыцца, і «аграмі» — торбачнікамі; да болю ён і ня прыслухоўваўся-б надта, — яго-ж і ёмкай «масьлінай» ніяк ня проймеш: урку заела, што смакаваныя штаны «абламаліся» ды што «Бірулька» не на прах-вэсаравым седзіве «галасавалася» . . .

От што грызла і смактала уркавую вантробку.

А «пан» Баніс, першы памагаты Гулівэра Бязносага, выпрастаў свае лапаткі, страсянуў рудымі касмакамі і аўтарытэтна й «дыпляматычна» згладзіў штаняны «канхлікт» «обшча-панятным»:

— Напряжение утраслось благополучно: штаны владельца — владельцу оных! Выползай, Пыжык; Будь парнем . . . Сочтемся . . .

І «парень» Пыжык «выпаўз».

А страху было цімала . . .

(Далей будзе)

# Аб прызнаньні беларускае нацыянальнасьці ў Францыі

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

нешта праз два гады ў Парыскай прэфэктуры нанава пачалі перакрэсьліваць беларускую нацыянальнасьць, і на гэты раз яшчэ з большай энэргіяй, а людзі нашыя — рэагаваць яшчэ з большай нэрвовасьцяй.

**Прапаўшая грамата**

З «паперкай» Міністэрства вонкавых справаў здарылася нешта падобнае да тэй гогалеўскай «прапаўшай граматай».

Адміністрацыя ІРО, перадаючы свае справы нова паўсталаму на месца ІРО воргану — Бюро (Офіс) Апекі над Уцекачамі й Безьдзяржаўнымі (апатрыдамі) — паперкі тэй аб прызнаньні беларускае нацыянальнасьці не перадало. У першым годзе свае практыкі Бюро (Офіс), як і перад ім ІРО, прадаўжала адылі па традыцыі выдаваць Беларусам пасьветчаньні, але потым, ці то зь ініцыятывы прафэктуры ці самога Бюра, выявілася, што зь Беларусамі ёзноў не ў парадку. Няма падставы! Няма пастановы Міністэрства вонкавых справаў!

Прафэсар Шульгін ды некалькі іншых урадоўцаў цьвердзілі, што «паперка» гэтая была, яны нат цытавалі зьмест яе, што яна знаходзілася ў актах шэфа Славянскага Аддзелу ІРО!.. Перапрасьлі, перашукалі ўсё — не знайшлі!..

Выхад з гэтага, здавалася, быў зусім просты: папрасіць у Міністэрстве вонкавых справаў копію, і ўсё ў парадку, — што і было Бюром зроблена. Але выявілася, што ў Міністэрстве вонкавых справаў ад тэй «паперкі» не засталося ніякага сьледу.

Айцец Леў з Прэз. Абрамчыкам пайшлі ёзноў асабіста ў Усходні Аддзел Міністэрства вонкавых справаў. Нажаль, таго самага шэфа ўжо не знайшлі. Былі й там зьмены ў пэрсанале. Перагледзелі кнігі, але аб цьверджанай а. Львом і Прэз. Абрамчыкам пастанове ў Міністэрстве нічога не знайшлося. Патрэбен быў новы дэмарш, новы мэмарандум! Справа зноў пачала зацягвацца ды нанова прыймаць прыкрыя формы, як для нашых людзеў, так і для прафэктураў, якія ўжо трэйці раз павінны былі перарабляць Беларусам іхныя дакументы.

Навясьне 1955 году быў зложаны новы абшырны мэмарыял Міністэрству вонкавых справаў ад імя чатырох беларускіх арганізацыяў («Хаўрусу», Аб'еднаньня Беларускіх Хрысьціянскіх Работнікаў, Саюзу Беларускае Моладзі й Беларускай Каталіцкай Місіі).

Сэнатар Пэзэ, старшыня сэнацкае камісіі для вонкавых справаў, зацікавіўшыся праблемай беларускае нацыянальнасьці, з свайго боку выслаў ліст Міністэрству вонкавых справаў, у якім ён вельмі энэргічна дамагаўся як найхутчэйшага ўпарадкаваньня справы прызнаньня беларускае нацыянальнасьці.

Няма сумлеву, што ліст старшыні сэнацкае камісіі адыграў у гэтым апошнім нашым дэмаршы найгалоўнейшую ролю, ня толькі ў сэньсе разьвязкі прызнаньня нам нацыянальнасьці, але і ў прыскораньні яе.

Штосьці ў чэрвені-ліпені 1955 году, калі справа прызнаньня беларускае нацыянальнасьці ў практыцы набрала самыя няпрыемныя для нас формы (быў дадзены кіраўнікамі Бюра Апекі загад забраць ад прафэсара Шульгіна ўсе беларускія анкеты й разьдзяліць іх між польскім і расейскім аддзеламі згодна іхнае дзяржаўнае прыналежнасьці да 1939 году), і калі а. Леў з Прэз. Абрамчыкам у тэты час зьявіліся ў Міністэрства вонкавых справаў, дык ім там адказалі, што прызнаньне беларускае нацыянальнасьці прынцыпова ўжо разьвязана пазытыўна, і што чакаюць толькі на подпіс адсутнага ў той час сп. міністра.

У той-жа самы дзень Бюро было тэлефанічна паведамлена аб гэтым Міністэрствам вонкавых справаў. Бюру дазвалялася правізарычна выстаўляць Беларусам пасьветчаньні аб іхнай нацыянальнасьці. 27 кастрычніка 1955 году прызнаньне беларускае нацыянальнасьці было праведзена й аформлена.

Айцец Леў, як прадстаўнік беларускае эміграцыі, атрымаў зь Бюра афіцыяльнае паведамленьне аб гэтай так важнай і доўгачаканай пастанове Міністэрства вонкавых справаў.

Пастановай гэтай закончылася 25-гадовае змаганьне беларускае эміграцыі за прызнаньне свае нацыянальнасьці.

Ад гэтага часу нашым суродзічам Бюро (Офіс) Апекі над Уцекачамі й Безьдзяржаўнымі пачало выдаваць усе належныя дакументы ад імя і зь пячаткай Міністэрства вонкавых справаў, а ў тым ліку — і пасьветчаньні аб беларускай нацыянальнасьці, якія цяпер бясспрэчна прызнаюцца ўсімі дзяржаўнымі ўстановамі Францыі.

**Высновы**

Прызнаньне беларускае нацыянальнасьці для нашых суродзічаў у Францыі, **у тэй самай форме, як і эміграцыям усіх сатэлітных народаў**, (цяпер Беларусам больш ня пішацца «з паходжаньня», а проста — «рэфюж'е бэлёрусьен», што азначае па сэнсе — «беларускі палітычны эмігрант») мае для нас усіх вялікае маральнае й палітычнае значэньне. Камэнтары да гэтага, пэўна-ж, лішнія.

Што беларускай эміграцыі спатрэбілася на асягненьне свае мэты аж 25 гадоў, зьяўляецца рэчай зусім нармальнай, калі прыняць пад увагу тыя псыхалягічныя передумовы заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў што да трактаваньня «нацыянальнасьці» наагул ды інтэнцыю нашых суседзяў з захаду і ўсходу выкарыстаць гэта для сваіх мэтаў.

Беларуская эміграцыя ня толькі ня можа мець жалю да вышэйшых францускіх установаў за такую зацягласьць справы прызнаньня беларускае нацыянальнасьці, а наадварот — мусіць быць асабліва ўдзячная Францыі, бо Францыя зьяўляецца ў гэтым сэнсе **першай** дзяржавай, якая не аглядаючыся на іншыя эўрапэйскія дзяржавы прыняла такую пастанову. Для нашых суродзічаў у іншых краінах пры падобным змаганьні, адным з мацнейшых аргумэнтаў можа быць таксама прыклад пастановы францускага ўраду.

За гэты так даўгі пэрыяд змаганьня беларускае эміграцыі за свае правы выявілася і нямала цікавых рэчаў, якіх нельга не адцеміць.

1) Вытрывальасьць нашых суродзічаў, якія пры ўсіх і ўсякіх абставінах патраплялі выдзяляць зь сябе актыў, які станоўка і пасьлядоўна, не адступаючы ад пастаўленае сабе мэты, упарта змагаўся да патрапіў выклікаць да сябе сымпатыі й прыхільнасьць францускіх уладаў.

2) На шляху гэтага змаганьня нашыя суседзі з усходу й захаду рабілі ўсе магчымыя перашкоды, каб не дапусьціць да абасабленьня Беларусаў у якой-бы то ні было форме, а асабліва да праўнафармальнага прызнаньня ім нацыянальнасьці; але гэтага ім не ўдалося дасягнуць. Асабліва наглядна выявілася ўся цыніка бальшавікоў, якія так голасна крычучы аб сувэрэннасьці беларускага народу, праз сваю-ж амбасаду ў Францыі стараліся ўжыць усе спосабы, каб ня было чутно беларуская імя. (Ляпей у польскую армію, ляпей да «рускіх патрыётаў», у пашпарце — ляпей «савецкі», абы не беларускае штосьці асобнае).

3) Сярод францускай грамадзка-палітычнай эліты заўсёды можна знайсьці людзеў зь нязгаслым духам францускага гуманізму, змагароў за права чалавека, якія пры ўсякіх абставінах, і ня глядзячы на абставіны, гатовыя фанатычна ўступіцца ў вабарону несправядліва пакрыўджаных.

Да такіх людзеў, якія прыйшлі й нам з дапамогай, трэба ў першую чаргу залічыць сп. сэнатара Пэзэ, які, асьведаміўшыся з нашай справай, узяўся за яе з усёй прачуленасьцю й энэргіяй.

Таксама беларуская эміграцыя ня можа застацца бяз удзячнасьці сп. амбасадару Гэру, шэфу Бюра Апекі над Уцекачамі й Безьдзяржаўнымі (апатрыдамі) ў Францыі ды ягонаму заступніку, сп. міністру Монкле, якія сваімі сымпатыямі й парадамі шмат дапамаглі нам. Таксама ўдзячныя мы сп. праф. Шульгіну, які ня толькі ўзяў на сябе цяжар тэхнічнае працы ў Бюры над Беларусамі, нёс і нясе яго далей, але й заўсёды прачульваўся нашай справай так, як-бы сваёй собскай — украінскай.

На заканчэньне ў пару словах:

**Што застаецца нашым суродзічам у Францыі яшчэ дарабіць?**

1) Кажны Беларус, у дакумантах якога з тых ці іншых прычынаў упісана небеларуская нацыянальнасьць павінен безадкладна перамяніць яе на беларускую.

2) Кажны сьведамы палітычна Беларус павінен падбаць аб сваіх суродзічах менш актыўных ці нат і зусім пасыўных, каб яны зарэгістраваліся ў Бюры (Офісе) Апекі над Уцекачамі й Безьдзяржаўнымі (апатрыдамі) як Беларусы.

3) Кажны актыўны беларускі эмігрант у Францыі павінен сабе прыпомніць, што такое доўгае змаганьне за нашу нацыянальнасьць, якое каштавала столькі высілкаў, а шмат якім часамі нат і рызыкі, павінна быць цяпер даведзена да канца праз выкарыстаньне ўсіх наступстваў з дасягнутае намі мэты. Дзеля таго прапаганда й дапамога павінны быць паведзены так, каб ніводзін з нашых суродзічаў сваёй нядбайлівасьцяй не пабольшваў ліку чужых, няпрыязных нам, народаў ды штучна зьменшваў лік Беларусаў — затрудняючы нашу агульную, дый сваю собскаю, сытуацыю.

Перарэгістроўвацца-ж і атрымоўваць дакуманты пад сваёй собскай нацыянальнасьцяй цяпер зусім проста й лёгка. А як гэта правесьці тэхнічна — хай кажны зьвернецца да а. Льва Гарошкі на адрас: 95, rue de Sèvres, Paris VIe. Тыя-ж, што пападаюць у Парыж беспасрэдна ў Бюро (Офіс) Апекі з правінцыі, хай зьвяртаюцца да сп. праф. Шульгіна, кіраўніка Украінскага аддзелу, ад якога атрымаюць таксама ўсю належную дапамогу.

Канец

М. Відук

# Яшчэ да Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

роду такія людзі, як сэнатар Уласаў, праф. Абрантовіч, кс. Гадлеўскі, Э. Будзька, праф. Багдановіч і іншыя дзеячы, ведамыя із свае далёкагляднасьці, высокае маралі й адданасьці нашай справе».

Запраўды трэба дзівіцца, як гэта аўтар, каторы, як відаць зь ягонага артыкулу, жыў у Вільні, мог так не арыентавацца. Сэнатар Аляксандар Уласаў ня толькі ніколі не прамаўляў, але быў у цесным кантакце з кіраўніцтвам Грамады. Што да Вячаслава Багдановіча, дык ён прафэсарам ня быў, але ня ў тым справа, а ў тым, што ён ня быў ідэйным Беларусам і не рабіў ніякае беларускае работы, але быў адзіным стаўпом расейшчыны ў Вільні. Жывучы ў Заходняй Беларусі, звычайныя грамадаўцы ня лёгкую мелі магчымасьць пазнаць камунізм. Дзеля таго ў сваёй вялікай бальшыні яны яго ня зналі, пакуль не апынуліся ў БССР. Ня лёгка было добра пазнаць камунізм і кіраўніцтву Грамады, бо тады-ж, была магчымасьць ладнай беларускай культурнай, а нат часткова й гаспадарскае (дзяржаўнае) працы ў БССР, а з боку польскага было адно сыстэматычнае перасьледаваньне. Бяссумлеву была тут і палітычная зялёнасьць кіраўніцтва Грамады.

Сп. Лаўрыновіч у ўадным месцы кажа: «Старшынём Грамады, як вядома, быў Бр. Тарашкевіч, а ягонымі блізкімі супрацоўнікамі — Мятла, Рак-Міхайлоўскі, Валошын і Галавач. Усе яны былі прыхільнікамі камунізму». А ў другім месцы: «...грамадаўскія дзеячы былі запраўды дрэннымі камуністымі, бо з нацыянальным ухілам».

Гэта ня толькі ня зусім ясна, але й неўпраўдзіва. Паўтараю сказанае мною ў № 31 (313) «Бацькаўшчыны»: А. Луцкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, Б. Тарашкевіч і падобныя да іх, будучы сябрамі камуністычнае партыі ў часе Грамады, заставаліся беларускімі патрыётамі і ня былі прыхільнікамі камунізму*); належнасьць да камуністычнае партыі і зьвязанае з гэтым пытаньнем спаўненьне ейных загадаў было іхнай вялікай абмылкаю. Што іншае Астроўскі й Акінчыц. Гэтыя ня грашылі беларускай ідэйнасьцю.

А што да паслоў «Змаганьня» — Дварчаніна, Верамея, Гаўрыліка, Грэцкага — дык гэта былі малыя абмежаныя людзі із слабым маральным і нацыянальным хрыбтом. Ведама, яны належалі да камуністычнай партыі. Іх захапляла пасольскае палажэньне, як дзеля гонару, так і ня ў меншай меры дзеля матарыяльных прыемнасьцяў. Разам з гэтым яны спадзяваліся добрага сабе палажэньня ў блізкай будучыні ў БССР.

Яшчэ падчыркну — сто разоў трэба падчыркнуць! — галоўным вінаватым паўстаньня Грамады і ўсяго з гэтым зьвязанага ёсьць польская экстэрмінацыйная палітыка ў дачыненьні да Беларусаў.

*) Пад прыхільнасьцяй да камунізму я разумею жаданьне, або прынамся зычэньне, завядзеньня камуністычнага ладу.

Я. Станкевіч

## АСАБІСТАЕ

**Паважаную Спадарыню Людмілу й Д-ра Барыса Рагуляў віншуем з нараджэньнем 3 жніўня сёлета сына Уладзімера Барыса. Жадаем, каб у будучыні прынёс ён для беларускай нацыянальна-вызвольнай справы шмат карысьці, а для Бацькоў шмат пацехі.**

Рэдакцыя

## АДОЗВА

**Царкоўная Рада новаадкрытага мною прыходу Жыравіцкае Божае Маці ў Пэрт (Аўстралія), пастанавіла збудаваць собскую царкву. З увагі на тое, што гэта мае быць першая собская Б.А.П. Царква ў Аўстраліі, зьвяртаюся да ўсіх Беларусаў ахвярна дапамагчы ў так важнай падзеі на нашай царкоўнай ніве.**

**Ахвяры прашу высылаць на адрас:**

**A. Maroz, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. Australia.**

**Аўстралія, 14. 6. 1956 г.**

**† Архіяпіскап Сяргей**
**Галава БАПЦ**

## УВАГА! ЗША УВАГА.

Гэтым паведамляецца, што ўсе падпісчыкі газ. «Бацькаўшчына» ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, якія атрымліваюць газэту беспасярэдна з Адміністрацыі, павінны як **найхутчэй** урэгуляваць сваю задоўжанасьць за газэту а так-жа і выслаць падпіску на 1956 год на ніжэй пададзены адрас нашага Прадстаўніка ў ЗША:

Mr. B. Danilovich
112 Somerset St.
New Brunswick, N. J.

## УВАГА! УВАГА!

**НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ПЛІТКІ**

Беларускі Выдавецкі Аддзел пры Галоўнай Управе Злучанага Беларуска-Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту выдаў другую сэрыю беларускіх патэфонных плітак, насьпяваных хорам ЗБ-АДК пад кіраўніцтвам сп-ра В. Селях-Качанскага і акампаніямэнце сп. сп. Д. Верасава ды П. Нядзьвецкага ў студыі «Р. С. А. Віктор» у Нью Ёрку. У гэтую сэрыю ўвайшлі наступныя песьні:

1. **Мы выйдзем шчыльнымі радамі** (нацыянальны гімн) — муз. Тэраўскага;
2. **Падняты родны сьцяг дзяржавы** — апрацоўка — В. Селях-Качанскага;
3. **Хор сялянаў** (з опэры «Кастусь Каліноўскі») — муз. М. Равенскага;
4. **Песьня волі** — муз. В. Селях-Качанскага, словы М. Сяднёва;
5. **Поле, поле** — муз. Д. Верасава, словы М. Кавыля;
6. **Беларусь перадусім** — муз. Стэповіча;
7. **Ой, ня кукуй, зязюленька** — муз. Тэраўскага (солё: К. Яцэвіч);
8. **Ой, ты мароз** — муз. М. Равенскага (солё: К. Яцэвіч);
9. **Бульба** — апрацоўка В. Селях-Качанскага;
10. **Ня рыч, карованька** — муз. М. Равенскага;
11. **Сьняжкі белыя, пушыстыя** — апр. В. Селях-Качанскага.

Ветліва просім беларускае грамадэтва падтрымаць наш пачын праз набыцьцё новых плітак, і гэтым самым спрычыніцца да выданьня трэйцяе сэрыі ўвосень 1956 году.

Кошт аднае пліткі — 1 далер плюс кошт перасылкі й апакаваньня. Камплет плітак — гэта найлепшы падарунак пры кажнай нагодзе. Выпісаць можна у: Mr. M. Sienko, 24 Herman St. South River, N. Y. U.S.A.

Управа ЗБ-АДК

*Фэльетон*

# Зачараваныя разявякі

(«Советская Белоруссия», 19. 7. 56)

**Ад Рэдакцыі:** Савецкі фэльетон дае бадай найлепшую магчымасьць прабрацца праз заслону прапаганды да рэчаіснасьці. Пэўна-ж, ня трэба забывацца, што ў бальшавіцкай прэсе бываюць часта і выпадкі пашквіляў ды паклёпаў. Аднак, з усіх формаў публіцыстыкі, фэльетон мае найбольш таго міжрадкоўя, якога заўсёды трэба шукаць у савецкіх газэтах. Дзеля таго вось «Бацькаўшчына» найчасьцей і выкарыстоўвае фэльетоны дзеля інфармаваньня нашага грамадзтва аб справах на Беларусі.

Зь ніжэй зьмешчанага фэльетону, прыкладам, відаць, што цыганоў, якіх заўсёды было шмат на Беларусі, і савецкая ўлада не перавыхавала (сяньня, некаторыя з нас былі-б схільныя думаць, што іх там наагул больш няма); з фэльетону відаць таксама ўзровень савецкае школы (Вольга Кулак закончыла Гарадзенскую, хіба **сярэднюю**, гандлёвую школу); так-жа з гэтага фэльетону, як нельга лепш бачым, што перадавая камсамольскасьць (арганізацыяў і сяброў), аб якой столькі трубіцца ў савецкай прэсе, — гэта пусты гук; і шмат чаго іншага...

* * *

У гэны вечар у табары ня было чуваць песьняў. Сьціх табар, толькі праваддыр ды маладая, ведамая із свайго спрыту цыганка Фрозя, вядуць ціхую гутарку:

— Працуеш дрэнна, прыносіш мала, — папракаў ён яе. — Заўтра бяз грошай і безь яды ў табар не зьяўляйся.

Фрозя палахліва скасавурылася на ёмка сплецены з сырамецi бізун, ручку якога праваддыр пагражальна сьціскаў, і шэптам адказала:

— Ня турбуйся, неўзабаве ўсё будзе: хлеб, сала, гарэлка. У мяне адна пташачка ўжо дзюбнула...

І на сьвітаньні прабудзіўся табар.

— Ану, пайдзем у места!.. — крычэў праваддыр, грозна размахваючы бізуном...

Па вуліцах Віцебску, страляючы на ўсіх бакох чорнымі вачыма, перабірала нагамі Фрозя, дачка ведамага ў ваколіцы цыгана — гандляра коньмі Прахора Казлоўскага. Вось яна падыйшла да хаты зь зялёным палісаднікам. Ля пышнага кусту бэзу сядзела маладзенькая дзяўчына з сумным тварам.

— Дабрыдзень, прыгажунька! Як спалася?

— Блага.

— Суджаны ня прыходзіў?

— Не.

— Бачу, па вачох бачу, глянь-жа на мяне шчэ раз і ня турбуйся, мы яго знойдзем... Вось толькі, — яна зладзеявата азірнулася, — мне трэба пабыць цяпер у цёмным памешканьні, хоць-бы і ў тваёй краме.

Дзяўчына, не задумоўваючыся, павяла цыганку ў харчовую краму, закрыла ваканіцы і ўпусьціла варажбітку ў сярэдзіну....

Год таму выхаванка дзіцячага дому Вольга Кулак закончыла Горадзенскую гандлёвую школу. Яе накіравалі працаваць у сыстэму Віцебскага харчовага гандлю. Тут ёй далі выпаўніць анкеты, да іх прыклеілі фатаздымкі і сказалі, што яна цяпер — матэрыяльна адказная асоба. Пасьля гэтага быў выдадзены адпаведны загад аб назначэньні, і Вольга Кулак сталася загадваць харчовай крамай. На працягу году ні партыйная ні камсамольская арганізацыі Віцебскага харчовага гандлю не цікавіліся, як спраўляецца маладая працаўніца, зь кім сябруе. А Вольга Кулак была самотная, і сэрца ейнае адгукнулася на ласкавыя словы хітрае цыганкі. Фрозя спрытна абрабляла дзяўчыну і паступова ўводзіла яе ў гушчар забабонаў.

Цыганка была ня толькі хітрая, але й прагная. На першы раз у знак даверу Вольга «пазалаціла» варажбітчы руку, палажыўшы на ейную брудную далонь колькі рублёў. Наступным разам яна аддала паліто, пасьля дзьве сукенкі, хустку. Цыганка не адчэплівалася. Незаўважна, «магічнае дзеяньне» было перанесенае ў краму. Усё часьцей вакно ў ёй пачало зачыняцца ваканцамі. Цыганка пад замком тварыла «цуды», і зачараваныя скрынкі з гарэлкай і віном, кансэрвы перакачоўвалі з паліц гандлёвага прадпрыемства ў цыганскія кібіткі. Паўз банкаўскія інкасатары ў кішэню цыганкі пападала й выручка утаргоўка. Яе забірала цыганка на выкуп «у добрага чарадзея яснага сокала» для Вольгі. З гэтае нагоды, у форме паквітаваньня Вольга Кулак пад дыктоўку цыганкі напісала: «Прывязеце мне Аркадзя... Я за яго заплаціла дзьве тысячы рублёў».

— Чакай яго, галубка, чакай, — гарача шаптала чарадзейка, — неўзабаве Аркадзь твой на буланым рысаку прыскача.

Аднак замест Аркадзя «прыскакала» рэвізія, выкрыла буйную растрату. Сталася ведама, што ў гэтай справе не апошнюю ролю згуляла цыганка Фрозя.

— Злавіць, пасадзіць афэрыстку! — прасілі кіраўнікі гандлю.

— Зловім, пасадзім! — адгукнуліся працаўнікі міліцыі, і ім гэта неўзабаве ўдалося.

І вось цыганка ў міліцыі. Яе прывялі да сьледчага т. Фядуры, але ён ёй выдаўся ня вельмі суворым начальнікам. Ня раз яна й раней была ў міліцыі і заўсёды, як уюн, высьлізвалася. Магчыма, Фядура таксама папаўся ў сільлё «магіі», бо йму раптам стала нудна, ён пазяхнуў раз, зяхнуў другі і празяваў цыганку. Яна камэтай мільгнула цераз шчыльную ахову, пакінуўшы на ўспамін пашпарт ды некаторыя рэчавыя доказы.

Такім чынам, справа цыганкі Фрозі — зладзейкі і афэрысткі — канула ў нябыт, а справа аб растраце камсамолкі Вольгі Кулак пакладзена для разгляду на судовы стол. Але трэба папытацца, што-ж зрабілі партыйная й камсамольская арганізацыі харчовага гандлю? Магчыма, яны насьцярожыліся, сабралі моладзь, расказалі, перасьцераглі? Нічога падобнага. Пранікненьне ў гандлёвую краму цыганкі ўспрынялі ў харчовым гандлі за зясёлую гісторыю і пакінулі ў супакоі.

Калі-б сьледчы міліцыі т. Фядура і дырэктар гандлю т. Курыленка пабылі ў прыгаданым намі цыганскім табары, дзівам дзівіліся-б яны. Сярод густога хмызьняку — пір гарой. У цэнтры — жвавая Фрозя. Яна адкупорвае накрадзеныя бутэлькі з гарэлкай і заклікае да зялёнага стала:

— Пі, колькі ўлезе! За здароўе разявяк!..

В. Хомка



Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.
Выдавец: Уладзімер Бортнік
РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.